АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

Э. М. Зайкоўскі

# ПЕРШАБЫТНЫЯ ПОМНІКІ ПАЎНОЧНАЙ БЕЛАРУСІ

Пад рэдакцыяй
кандыдата гістарычных навук
М. М. Чарняўскага

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1990

# КРАЙ АЗЁРНЫ, КРАЙ СТАРАЖЫТНЫ

На поўначы Беларусі раскінуўся маляўнічы край — Беларускае Паазер'е. Асноўную яго частку складаюць абшары, занятыя Заходняй Дзвіной і яе прытокамі — Дзісной, Дрысай, Лучосай, Палатой, Ушачай і інш. Акрамя густой сеткі рэк тут маецца некалькі тысяч азёр, буйнейшыя з якіх Асвейскае, Езярышча, Лукомскае, Мядзел, Дрывяты, Сялява. Умераны клімат, вялізныя лясныя прасторы, багатыя рыбай рэкі і азёры здаўна прыцягвалі ўвагу чалавека, які са старажытнейшых часоў засяліў гэтую зямлю. Цяпер гэта тэрыторыя большай часткі Віцебскай і некаторых паўночных раёнаў Мінскай вобласці. У складаным узаемадзеянні нашых продкаў з прыродай і суседнімі народамі стваралася гісторыя Беларускага Падзвіння. Менавіта тут узнікла магутнае і слаўнае Полацкае княства, жылі і тварылі Ефрасіння Полацкая і Францыск Скарына, адсюль выпраўляліся мужныя воіны на змаганне з ворагам пад Сінія Воды і Грунвальд, тут працай простых земляробаў і паляўнічых ствараліся скарбы гэтага краю. На гэтай тэрыторыі пачаў складвацца беларускі народ, упершыню прагучала яго назва.

Каля 14 тыс. гадоў назад поўнач Беларусі вызвалілася ад апошняга ледавіка. Былая ледзяная пустыня пакрылася азёрамі і лясамі, у якіх вадзілася мноства дзікіх жывёл. Тут былі распаўсюджаны такія рэдкія або знікшыя цяпер звяры, як зубры, туры, мядзведзі, тарпаны, алені, рысі, бабры. У рэках і азёрах вадзілася мноства рыбы. Прыродныя багацці Падзвіння прываблівалі старажытных людзей, якія з'явіліся тут пасля адступлення ледавіка.

Ваганні клімату, змяненні ўзроўню вадаёмаў аказалі несумненны ўплыў на размяшчэнне паселішчаў чалавека, якія ў даўнія часы знаходзіліся ля самай вады. У асобныя перыяды вада ў азёрах стаяла даволі нізка

(такія з'явы назіраліся каля 8—5 тыс. гадоў да н. э., 3000—1300 гадоў да н. э., VII—VI ст. да н. э., V—VI ст. н. э.). Старажытныя паселішчы звычайна размяшчаліся таксама на нізкім узроўні над вадой. Калі ўзровень азёр значна падымаўся і ранейшае месца размяшчэння людзей залівалася вадой, насельніцтва пераходзіла жыць на больш высокія і сухія берагі. Не раз здаралася, што азёры пастунова зарасталі чаротам, забалочваліся і ранейшыя затопленыя паселішчы аказваліся пад пластом торфу. Там, ва ўмовах пастаяннай вільготнасці і амаль без доступу кіслароду, на працягу тысячагоддзяў добра захоўваліся, не гнілі вырабы з косці і рога, дрэва, іншыя рэчы з арганікі. Дзякуючы гэтаму ўдалося паўней вывучыць жыццё старажытных людзей. Акрамя таго, арганічныя рэшткі пры дапамозе спецыяльнага метаду можна даволі дакладна датаваць, што яшчэ больш павялічвае навуковую каштоўнасць тарфянікавых паселішчаў. Шмат матэрыялу даюць таксама раскопкі незатарфаваных стаянак, селішчаў, гарадзішчаў, магільнікаў, зборы пад'ёмнага матэрыялу, напрыклад шматлікіх каменных сякер.

Некаторыя важныя звесткі аб старажытнай гісторыі даюць мовазнаўства, фальклор, этнаграфія. Часта яны дапамагаюць зразумець прызначэнне розных археалагічных знаходак, аднавіць свет звычак і вераванняў першабытных насельнікаў. А паходжаннем продкаў, таямнічымі помнікамі іх жыцця дапытлівы чалавечы розум зацікавіўся ўжо даўно.

## СПАЧАТКУ БЫЛІ ЛЕГЕНДЫ

Зямля краю азёр заўсёды хавала ў сабе мноства таямніц старажытнай гісторыі. Загадкавыя знаходкі здаўна абуджалі цікавасць мясцовых жыхароў, якія спрабавалі неяк растлумачыць паходжанне гэтых рэчаў. Так, свідраваныя каменныя сякеры лічыліся перуновымі ці громавымі стрэламі, ім прыпісвалі розныя магічныя ўласцівасці. Яшчэ каля тысячы гадоў назад у некаторыя курганы разам з нябожчыкам і прадметамі хатняга ўжытку клалі выйшаўшыя з карыстання каменныя сякеры. Вядомы чэшскі рэфарматар Геронім Пражскі, які ў 1411 г. наведаў Літву і Беларусь, у тым ліку Віцебск, успамінаў, што ў адной з цэркваў убачыў гіганцкі мо-

лат, якому пакланяліся. Яму расказалі аб тым, што калісьці магутны кароль схапіў сонца і замкнуў у вежы. Гору дапамаглі дванаццаць знакаў Задыяка. Яны вярнулі сонца людзям, разбіўшы вежу молатамі, адзін з якіх і захоўваецца ў храме.

Шмат легенд існавала пра гарадзішчы жалезнага веку. Паводле некаторых з іх, аднойчы людзі захацелі засыпаць зямлёй забітага перуном страшыдла — змея, але як яны ні стараліся гэта зрабіць, зямля праз ноч аказвалася раскіданай. Тады вырашылі запрэгчы ў стары лапаць чорнага пеўня і вазіць зямлю на ім. Зямлю прывозілі тройчы, і нарэшце яе хапіла для таго, каб цалкам засыпаць змея. Насыпаная гара пачала называцца Змяёўкай. Вядомыя савецкія даследчыкі В. У. Іваноў і У. М. Тапароў тлумачаць, што ў старажытнай міфалогіі і каменная сякера, і певень з'яўляюцца якраз атрыбутамі Грамавержца, што змагаецца са сваім праціўнікам — Змеем.

Трагічныя падзеі старажытнай беларускай гісторыі таксама знайшлі адлюстраванне ў паданнях. Так, адно з гарадзішчаў у Расонскім раёне называлі гарой Рагвалода і Рагнеды альбо Рагнедзіным курганом, паколькі там нібыта пахаваны першы гістарычна вядомы полацкі князь Рагвалод, забіты ўдарам каменнага молата, а пасля і княгіня Рагнеда. На гарадзішчы і ў акаляючым яго возеры мясцовыя жыхары не раз знаходзілі каменныя сякеры, а аўтарам знойдзена таксама кераміка XII ст. і новага каменнага веку — неаліту.

У ваколіцах р. Дрысы вядома было месца, дзе, па паданню, жыў міфічны князь Бой са сваімі сабакамі Стаўры і Гаўры. Шмат разоў сабакі выратоўвалі свайго гаспадара ад небяспекі, таму, калі яны памерлі, князь загадаў у пэўныя дні шанаваць іх памяць. У мінулым стагоддзі ў многіх мясцінах Беларусі святкаваліся так званыя стаўроўскія ці гаўскія Дзяды. Некаторыя вучоныя мяркуюць, што князь Бой са сваімі Стаўрамі і Гаўрамі з'яўляецца такім жа богам смерці, як індуісцкі Яма з Сарамейскімі сабакамі, аналогіі магчымыя і ў скандынаўскай міфалогіі.

У некаторых месцах ёсць гарадзішчы, вядомыя пад назвай Царковішча, Царкоўка, таму што нібыта раней там стаяла царква, якая потым правалілася пад зямлю. Часта сустракаюцца такія назвы, як Замак, Замчышча, Замкавая гара, Вал, Французская гара, Гарадзішча,

Гарадок, Гарадзец, Чорная гара, Белая гара. Такія тапонімы з'яўляюцца арыенцірам для археолагаў, дзе трэба шукаць старажытныя помнікі.

Старажытныя курганы вядомыя ў народзе як курганы, капцы, валатоўкі. Паводле многіх паданняў, у валатоўках пахаваны легендарныя волаты. Назва «валатоўкі» асабліва часта сустракаецца на поўначы Беларусі. Ёсць думка, што яе распаўсюджанне ў значнай меры супадае з тэрыторыяй рассялення старажытнага племя крывічоў. Дзе-нідзе насельніцтва называе курганы шведскімі ці французскімі магіламі, хоць пахаванні ні тых, ні другіх там не былі выяўлены. Проста пазнейшыя падзеі выцеснілі з памяці людзей ранейшыя звесткі пра гэтыя помнікі. У некаторых мясцінах курганы называюць Змеевымі магіламі, паколькі па сваёй форме яны нагадваюць доўгае цела змея.

У Беларусі, як і ў суседняй Прыбалтыцы, да гэтага часу вельмі пашыраны культ камянёў. Асаблівай пашанай заўсёды карысталіся камяні-следавікі. Паходжанне штучных або прыродных адбіткаў на іх, падобных на сляды чалавека ці жывёл, таксама звязвалася з рознымі легендамі. Шмат паданняў існавала пра так званыя камяні-краўцы, якія трапляюцца ў многіх мясцінах Падзвіння. Напрыклад, пра адзін з іх, каля в. Вароніна Сенненскага раёна, расказваюць, што пад ім сядзеў чорт, які вельмі добра шыў за невялікую плату рознае адзенне. Аднойчы нейкая жанчына прынесла кавалак сукна і папрасіла пашыць «ні тое, ні гэта». Была пашыта вельмі недарэчная адзежына, а чарадзейны кравец з таго часу зусім кінуў шыць.

У мінулым стагоддзі былі запісаны цікавыя звесткі ад старажылаў пра тое, што ў паганскія (язычніцкія) часы каля воз. Валовага ў ваколіцах Полацка існавалі капішчы Перуна і Бабы-ягі. Падобныя паданні пра археалагічныя аб'екты сустракаюцца ў розных мясцінах паўночнай Беларусі. У іх, нярэдка ў казачнай форме, адлюстраваліся многія падзеі нашай старажытнейшай гісторыі.

## ЯНЫ БЫЛІ ПЕРШЫМІ

Першыя звесткі аб даследаванні археалагічных помнікаў у Падзвінні адносяцца да XVIII ст. Так, напрыклад, археалагічныя раскопкі курганоў у маёнтку Мосар

(пад Полацкам) зацікавілі караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Больш шырокія пошукі разгарнуліся ў XIX ст. У 1842 г. вядомы рускі вучоны А. Х. Вастокаў паведамляў пра знойдзеныя ў курганах каля Гарадка каменныя сякеры і дзіду. Яшчэ раней гарадзішчы па Заходняй Дзвіне былі адзначаны на карце З. Даленгі-Хадакоўскага, які адносіў іх да культавых месцаў. Гэтага пункту гледжання прытрымліваліся ў далейшым многія іншыя даследчыкі, аднак пазней было даказана, што гэтыя помнікі з'яўляюцца паселішчамі.

Значную працу па даследаванню помнікаў Віцебшчыны ў мінулым стагоддзі праводзіў вядомы краязнаўца А. М. Семянтоўскі-Курыла, на адной з археалагічных карт якога было адзначана да 1200 аб'ектаў. Нягледзячы на тое што даследчык не праводзіў раскопак, яго апісанне гарадзішчаў і знаходак каменнага веку не страціла навуковага значэння да цяперашняга часу. У 1983 г. у Вільні адбыўся IX Археалагічны з'езд. На ім Ф. В. Пакроўскім былі прадстаўлены, а потым апублікаваны археалагічныя карты Віленскай і Ковенскай губерняў, у склад якіх уваходзіла заходняя частка сучаснай Віцебшчыны. Беларускі вучоны Е. Р. Раманаў праводзіў у некаторых мясцінах раскопкі. У прыватнасці, каля воз. Багданаўскага пад Сянном пры даследаванні курганоў ім было выяўлена паселішча неаліту або бронзавага веку. У 1907 г. выйшла кніга «Сенненскі павет Магілёўскай губерні» мясцовага настаўніка гімназіі К. Т. Анікіевіча, які апісваў старажытнасці свайго краю. У кнізе прыведзена цікавая легенда аб тым, што на гарадзішчах калісьці жылі волаты, якія перакідваліся паміж сабой каменнымі сякерамі. У пачатку нашага стагоддзя раскопкі гарадзішча Марчанкі пад Гарадком правёў прафесар Харкаўскага універсітэта Л. Ю. Лазарэвіч-Шапялевіч. Пэўны ўклад у вывучэнне Падзвіння ўнеслі ў дарэвалюцыйны час таксама Я. П. і К. П. Тышкевічы, М. Ф. Кусцінскі, Ф. О. Вільчынскі, А. Д. Азерскі, Адам, Фелікс і Ігнат Плятэры, А. П. Сапуноў, В. Шукевіч і інш. Трэба адзначыць, аднак, што археалагічная праца многіх з іх абмяжоўвалася пераважна толькі зборам каменных сякер, якіх шмат траплялася на гэтай тэрыторыі.

Больш шырокія даследаванні ў Беларускім Падзвінні распачаліся пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі з арга-

нізацыяй Інстытута беларускай культуры, а потым Акадэміі навук БССР. Першыя беларускія савецкія археолагі А. М. Ляўдансні, А. Дз. Каваленя, К. М. Палікарповіч, І. А. Сербаў, С. С. Шутаў побач з даследаваннямі ў іншых раёнах Беларусі выявілі шэраг першабытных помнікаў і на поўначы рэспублікі, некаторыя з іх часткова раскапаны. Значнай падзеяй у навуцы стала адкрыццё ў 1934 г. паселішчаў Крывіна і Асавец на Крывінскім тарфяніку, раскопкі якіх пачаў К. М. Палікарповіч. Істотны ўклад у археалагічнае вывучэнне Віцебшчыны, асабліва ў 20-я гады, уносілі мясцовыя краязнаўцы.

У басейне Дзісны, што знаходзіўся ў складзе акупаванай польскімі панамі Заходняй Беларусі, абследаванні і невялікія раскопкі ў 1933—1938 гг. праводзілі супрацоўнікі Віленскага ўніверсітэта Алена і Уладзімір Галубовічы. Імі было выяўлена 72 гарадзішчы, шэраг курганных груп і паселішчаў эпохі каменя і бронзы. Некалькі дзесяткаў рознячасовых помнікаў першабытнага часу, асабліва ў Глыбоцкім і Міёрскім раёнах, знайшоў вядомы мастак Язэп Драздовіч. У сваіх палявых дзённіках ён не толькі апісаў адкрытыя ім аб'екты, але і выказаў шэраг цікавых думак аб жыцці старажытнага насельніцтва. Удзяляючы ў сваёй творчасці вялікую ўвагу гістарычнай тэматыцы, мастак стварыў серыю малюнкаў, дзе паэтызаваў беларускую мінуўшчыну, — «Пагоня Ярылы», «Пажар гарадзішча», «Замак» і інш. Хоць фактычнага матэрыялу па асобных перыядах гісторыі было вельмі мала, але на некаторых малюнках інтуітыўна былі паказаны такія дэталі (напрыклад, асаблівасці старажытных жытлаў), якія сталі вядомы археолагам толькі пазней. Некаторыя з адкрытых Драздовічам помнікаў былі раскапаны археолагамі нашага часу.

Больш шырокія археалагічныя даследаванні на поўначы Беларусі распачаліся ў канцы 50-х гадоў. Раскопкі старажытных паселішчаў на Крывінскім тарфяніку былі прадоўжаны К. М. Палікарповічам, А. Г. Краскоўскай, П. А. Прыбыткіным. Пазней шэраг помнікаў каменнага веку даследаваўся І. М. Ціханенкавым. З 1966 г. даследаванні тарфянікавых паселішчаў каля в. Асавец Бешанковіцкага раёна вядзе М. М. Чарняўскі. Пачынаючы з 1978 г. у даследаванне старажытнейшых помнікаў Падзвіння ўключыўся аўтар. Яшчэ ў канцы 50-х — па-

чатку 60-х гадоў мезалітычныя стаянкі на Дзвіне вывучала ленінградская даследчыца Н. М. Гурына. У апошнія гады плённыя раскопкі мезалітычнага помніка Замошша І праводзіліся У. П. Ксянзовым. Даследаваннем помнікаў жалезнага веку паўночнай Беларусі ў тры апошнія дзесяцігоддзі займаліся таксама Л. В. Аляксееў, А. Р. Мітрафанаў, Г. В. Штыхаў, К. П. Шут, В. І. Шадыра, Л. У. Дучыц. Актыўны пошук новых помнікаў вялі краязнаўцы І. А. Вашчыла, І. І. Волкаў, В. А. Ермалёнак, В. Я. Папкоў.

Дзякуючы пошукам археолагаў стала магчымым устанавіць, плямёны якіх археалагічных культур пражывалі на тэрыторыі Беларускага Падзвіння, вызначыць іх храналогію і ўзровень гаспадарчай дзейнасці.

## ВЕК КАМЕНЯ І БРОНЗЫ

Нягледзячы на тое што на поўначы Беларусі не раз знаходзілі косці мамантаў, рэштак самага старажытнага перыяду — палеаліту — там не выяўлена. Самымі раннімі на гэтай тэрыторыі пакуль што лічацца некалькі мезалітычных стаянак. Дзве з іх — Сямёнаў Хутар і Крумплева пад Полацкам — былі даследаваны ў канцы 50-х гадоў Н. М. Гурынай. Зрэшты, Крумплева даследчыца адносіць да фінальнага палеаліту. Раскопкі Сямёнава Хутара працягваліся і пазней. Акрамя таго, даследаваліся мезалітычныя помнікі Гарадок (пад Новалукомлем), Стругалапы (на воз. Мядзел), Замошша І (на Дзвіне). На апошнім паселішчы былі праведзены найбольш значныя раскопкі, якія далі багаты матэрыял — розныя крамянёвыя прылады і адыходы вытворчасці. У даваенны час праводзілася шурфоўка на стаянцы Крыжы пад Віцебскам. Мезаліт на тэрыторыі Беларусі працягваўся ад IX да V тысячагоддзя да н. э. У эпоху сярэдняга каменя і адбылося засяленне тэрыторыі Падзвіння. Насельніцтва вяло прысвойваючую гаспадарку, займаючыся паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам. Распаўсюдзілася прымяненне лука і стрэл, крамянёвыя прылады сталі больш дасканалымі і разнастайнымі. З-за недахопу мясцовай сыравіны яны рабіліся невялікіх памераў, нярэдка былі састаўнымі, калі крамянёвыя ўкладышы замацоўваліся ў пазах драўляных ці касцяных апраў.

Каля чатырох тысяч гадоў да н. э. пачалася эпоха неаліту, адной з характэрных асаблівасцей якой была вытворчасць глінянага посуду, альбо керамікі. Найбольш раннія неалітычныя паселішчы выяўлены ва ўсходняй частцы Беларускага Падзвіння — каля вёсак Бабінавічы і Украішча Лёзненскага, Лаўкі Чашніцкага, Мяжа Гарадоцкага раёнаў. Было высветлена, што гэтыя помнікі ў сваім развіцці прайшлі тры храналагічныя этапы. На першым, самым раннім этапе жыхары паселішчаў карысталіся посудам чырвонаватага ці жоўтага колеру, на ўнутранай паверхні пасудзін меліся падга-




Рыс. 1. Карта размяшчэння асноўных помнікаў каменнага і бронзавага веку:

1 — Стругалапы, 2 — Дубавое, 3 — Задзеўскае, 4 — Рацюнкі, 5 — Пліса I, 6 — Пліса IV, 7 — Замошша I, 8 — Сямёнаў Хутар, 9 — Замошша, 10 — Чамярычына, 11 — Ворань I, 12 — Гара Рагвалода і Рагнеды, 13 — Загаваліна, 14 — Зарэчча, 15 — Кастрыца, 16 — Гарадок, 17 — Лаўкі, 18—20 — Асавец I, II, IV, 21—23 — Крывіна I, II, III, 24 — Крыжы, 25 — Мяжа, 26 — Двухполле, 27 — Скрыдлева, 28 — Бабінавічы, 29 — Гярманы, 30 — Шашалаўка, 31 — Зарэчча I; I — неўмацаваныя паселішчы, II — раннія гарадзішчы



Рыс. 2. Кераміка бабінавіцкага тыпу (ранні этап)

рызантальныя расчосы. У цесце прыкметная дамешка буйназярністага пяску ці жарствы. Венчыкі керамікі ў асноўным былі звонку адагнутыя, але сустракаюцца і прамыя. Крыху больш за палову знойдзеных фрагментаў не маюць арнаменту. З арнаментальных матываў пераважаюць адбіткі грабеньчатага штампа, сустракаюцца таксама ямкі, наколы, прачэрчаныя лініі і спалучэнні ўсіх гэтых узораў. Падобная кераміка за межамі Падзвіння выяўлена на неалітычных помніках каля в. Лубяны Бялыніцкага раёна і паблізу станцыі Катынь пад Смаленскам.

На другім этапе існавання паселішчаў вырабляўся посуд з арганічнай дамешкай у цесце і расчосамі знутры. Начынне мела закругленыя патоўшчаныя днішчы. У арнаменце акрамя ўжо апісаных матываў сустракаюцца таксама паскі з нахіленых насечак.

На трэцім, познім этапе панавала гладкасценная кераміка з арганічнай дамешкай у гліне. На зрэзы венчыкаў нярэдка наносіўся арнамент. Пераважная частка абломкаў упрыгожана грабеньчатымі ўзорамі, насечкамі, «вусеневымі» адбіткамі, водціскамі тонкай слаба перавітай вяровачкі. Па шэрагу рыс у посудзе выразна прасочваецца ўплыў суседняй нарвенскай культуры. Цікавыя вынікі атрыманы пры вымярэнні ўдзельнай вагі керамікі. Аказалася, што кераміка трэцяй групы значна лягчэйшая, чым першай.

З крамянёвых прылад пераважалі скрабкі (у асноўным канцавыя), як правіла, вырабленыя на пласцінках. З іншых прылад ужываліся разцы, трапецыі, сегменты, нажападобныя пласціны, разнастайныя наканечнікі стрэл.

Па аналогіі з іншымі неалітычнымі паселішчамі помнікі тыпу Бабінавіч можна датаваць адрэзкам часу ад V—IV амаль да канца III тысячагоддзя да н. э. Пачынаючы з сярэдняга этапу на гэтай тэрыторыі ўсё больш узмацняўся ўплыў нарвенскай культуры.

На Крывінскім тарфяніку, які знаходзіцца на мяжы Бешанковіцкага і Сенненскага раёнаў, найбольш ранім з'яўляецца паселішча Асавец IV. У яго культурным пласце добра захаваліся косці дзікіх жывёл, птушак і рыб, а таксама касцяныя вырабы: цёслы, сякеры, наканечнікі стрэл, абломкі гарпуноў. Кераміка прадстаўлена фрагментамі гаршкоў, арнаментаваных пераважна грабеньчатымі адбіткамі і дробнымі ямчатымі наколамі.



Рыс. 3. Крамянёвыя прылады з помнікаў тыпу Бабінавіч:

1, 5 — трапецыі, 2 — абломак рэтушаванай пласціны, 3, 6, 13—16, 20, 24 — наканечнікі стрэл і дзід, 4 — праколка, 7, 11, 18, 26 — пласціны, 8 — адшчэп з падрэтушоўкай, 9, 10, 17, 23, 25 — разцы, 12, 19, 21, 22, 28 — скрабкі, 27 — сякера, 29 — скрэбла

Нешматлікія крамянёвыя прылады па свайму выгляду блізкія да мезалітычных. М. М. Чарняўскі датаваў гэты помнік IV тысячагоддзем да н. э.

У сярэднім, або развітым, неаліце амаль усё Падзвінне было заселена плямёнамі нарвенскай культуры. На Крывінскім тарфяніку размешчана значная частка паселішчаў гэтай культуры — Крывіна I і II, Асавец I і II, а за яго межамі — Двухполле I у Гарадоцкім раёне. З крамянёвых прылад найбольш характэрнымі з'яўляюцца кароткія няправільнай формы скрабкі з закругленымі рабочымі часткамі, зробленыя на адшчэпах. Разцы трапляюцца рэдка, затое даволі часта сустракаюцца свярдзёлкі і праколкі. Наканечнікі стрэл і дзід па форме былі ў асноўным лістападобнай і рамбічнай формы. На іх падобныя касцяныя наканечнікі. З косці і рога выраблялiся таксама гарпуны, матыкі, цёслы і долаты.

Посуд звычайна быў вастрадонны, дыяметр яго ў некаторых выпадках дасягаў да паўметра. У цеста дамешваліся раслінныя рэшткі і тоўчаныя ракавіны. Начынне фармавалася спосабам тарцовага прылеплівання гліняных стужак адна да другой. У сярэднім каля трэці фрагментаў не маюць арнаменту. Там, дзе ён сустракаецца, у арнаменце пераважаюць паскі з насечак, ямкі і наколы, прачэрчаныя лініі, «вусеневыя» і грабеньчатыя адбіткі. Дзе-нідзе трапляюцца абломкі з адбіткамі тканіны на дошчачках. Арнаменты размяшчаліся рэдкімі гарызантальнымі паскамі, у асноўным аздабляліся толькі верхнія часткі посуду.

Помнікі, якія размяшчаліся на захадзе Віцебшчыны — ля Ворані, Плісы, Пастаў, адрозніваліся ад астатніх нарвенскіх яшчэ менш арнаментаванай керамікай, іншымі суадносінамі ўзораў.

Паселішчы нарвенскай культуры на поўначы Беларусі датуюцца другой паловай III тысячагоддзя да н. э. Недзе ў гэты ж час з Прыбалтыкі ў заходнюю частку Падзвіння і вярхоўе Віліі прасунуліся плямёны культуры «тыповай» грабеньчата-ямачнай керамікі, названай так па самых тыповых рысах аздаблення посуду. Гэтыя плямёны па сваёй мове лічацца блізкімі да фіна-уграў, але яны былі адносна нешматлікімі і хутка змяшаліся з карэннымі жыхарамі.

На мяжы III і II тысячагоддзяў да н. э. на вялізнай тэрыторыі ад Волгі да Рэйна распаўсюдзіліся культуры шнуравой керамікі, ці, як называюць інакш, баявых ся-

кер. Пад уплывам «шнуравікоў» у Беларускім Паазер'і, частцы Смаленскай і Пскоўскай абласцей склалася паўночнабеларуская культура. У цяперашні час найбольш даследаваны яе тарфянікавыя паселішчы Крывіна I, II, III, Асавец II, Шашалаўка, а таксама Скрыдлева і Двухполле I. У басейне Друці кераміка паўночнабеларускай культуры трапляецца ля в. Лубяны. Асноўную частку знаходак складаюць фрагменты ляпнога посуду з дамешкамі тоўчаных ракавінак, раслінна-сці, крыху пазней — пяску і жарствы ў цесце. На раннім этапе ледзь не ўся кераміка была пакрыта арнаментам. Налічваецца шэсць асноўных прыёмаў арнаментацыі (пералік у бок змяншэння распаўсюджвання): насечкі, ямкі, тычкі, прочарк, грабенчатыя адбіткі, шнур. Пераважае матыў насечкі ў выглядзе гарызантальнай ялінкі, якім пакрыта каля паловы фрагментаў. Такі ўзор характэрны таксама для суседніх культур шнуравой керамікі, што сведчыць аб блізкасці помнікаў паўночнабеларускай культуры і сучасных ім паселішчаў Прыбалтыкі, Верхняга і Сярэдняга Падняпроўя, Верхняга Паволжа. Каля чвэрці керамікі ўпрыгожана іншымі відамі насечак, пастаўленых коса ці вертыкальна, кароткімі палоскамі, сабранымі ў групы і пастаўленымі пад вуглом адна да адной, і інш. Рамбічны ўзор сустракаецца на посудзе фацьянаўскай культуры, у Прыбалтыцы, Беларускім Панямонні і Палессі, у Падняпроўі.

Даволі часта ўжываецца ўзор у выглядзе лукаткі. Лукатка бывае простай, двайной і трайной. Простая лукатка часцей за ўсё падзяляе асноўны ўзор, яна часта трапляецца на посудзе культур баявых сякер і шнуравой керамікі. Двайная і трайная лукатка сустракаецца ў пачатку II тысячагоддзя да н. э. на шнуравой кераміцы на тэрыторыі ад Волгі да Рэйна. Даволі часта трапляецца ўзор у выглядзе паскаў, атрыманых з ямак і розных тычковых спалучэнняў. Падобнае аздабленне мелася яшчэ на кераміцы нарвенскай культуры, прычым у разнастайных спалучэннях: у выглядзе ялінкі, перакрыжаваных ліній, лукаткі і г. д. Як і ў іншых культурах шнуравой керамікі, у паўночнабеларускіх плямён вырабляўся посуд з адбіткамі шнура. Ён сустракаецца ў выглядзе простых падгарызантальных баразнаў, коса пастаўленых і падковападобных адбіткаў, а таксама больш складаных матываў.

Паколькі ў Беларускім Падзвінні адсутнічаюць улас-




Рыс. 4. Посуд паўночнабеларускай культуры



Рыс. 5. Арнаментальныя матывы керамікі паўночнабеларускай культуры

ныя радовішчы крэменю, то крамянёвыя вырабы на паселішчах паўночнабеларускай культуры нешматлікія. З прылад працы сустракаюцца скрабкі на адшчэпах, праколкі, падтрохвугольныя і чаранковыя наканечнікі стрэл, нажы, крамянёвыя сякеркі. Асноўнай сыравінай для вырабу прылад былі, як і ў насельніцтва нарвенскай культуры, косць і рог. У прыватнасці, з рога аленя і лася выраблялі сякеры і цёслы, знаходкі якіх даволі шматлікія. Трапляюцца таксама наканечнікі стрэл розных тыпаў, праколкі і шылы, упрыгожанні (падвескі, каралі з зубоў звяроў). Трапляюцца ўпрыгожанні з балтыйскага бурштыну. На тарфянікавых паселішчах няблага захаваліся вырабы з дрэва: рэшткі посуду, чаўна і вёсел, невыразныя абломкі прылад, у тым ліку рыбалоўных — берасцяных паплаўкоў, гліняных і каменных грузіл.

Частка помнікаў паўночнабеларускай культуры адносіцца да позняга неаліту. У Падзвінні бронзавы век пачаўся значна пазней, чым у паўднёвых абласцях, таму што гэты край не меў сваёй сыравіны для выплаўкі бронзы, а таксама быў значна аддалены ад цэнтраў старажытнай металургіі. Выяўленыя нешматлікія бронзавыя вырабы адносяцца да другой чвэрці, а то і сярэдзіны II тысячагоддзя да н. э. Тым жа перыядам трэба датаваць і мяжу паміж неалітам і эпохай бронзы. Нават пазней прылады з бронзы не змаглі выцесніць вырабаў з крэменю і косці, таму шырокага распаўсюджання яны не атрымалі. Да бронзавага веку адносяцца таксама некаторыя паселішчы паўночнабеларускай культуры, у тым ліку частка знаходак з Асаўца II, Крывіны II, Двухполля I, Зарэчча I. Кераміку пачалі выраблядь з цеста, у якое дамешвалі жарству. Яна добра абпальвалася, з абодвух бакоў нярэдка наносілася штрыхоўка. У параўнанні з ранні́м этапам стала больш неарнаментаваных зон. Начынне ўпрыгожвалася адбіткамі грабеньчатага штампа, насечкамі, наколамі, прачэрчанымі лініямі. Такім чынам, асноўным узорам з'яўляўся грабеньчаты. Магчыма, гэта вынік адраджэння некаторых традыцый сярэдняга неаліту. Кераміка, падобная на познюю паўночнабеларускую, у гэты час была распаўсюджана ў Верхнім Падняпроўі і Латвіі. Самыя познія знаходкі паўночнабеларускай культуры датуюцца перыядам каля 1400 г. да н. э.

На захадзе Беларускага Падзвіння ў познім неаліце і ранняй бронзе была распаўюджана адмысловая шну-

равая кераміка, якая, аднак, не належала да паўночнабеларускай культуры, а адносілася па культурнай прыналежнасці да групы помнікаў Панямоння ці Літвы.

У канцы II тысячагоддзя да н. э. на поўнач Беларусі пранікае насельніцтва, якое выраблялa посуд з «ружанцовымі» ўзорамі, названымі так таму, што яны нагадваюць выяву нанізаных на нітку ружанцаў ці ў нейкай меры падобныя на калючы дрот. Фрагменты та-



Рыс. 6. Вёска Пліса Глыбоцкага раёна. Раскопкі паселішча Пліса I

кой керамікі выяўлены ў невялікай колькасці пры раскопках Плісы I і Асаўца II. У больш паўднёвых абласцях такі арнамент быў характэрны для сосніцкай, а таксама для тшцінецкай культуры. Невядома, належаць шматлікія знаходкі Падзвіння адной з гэтых культур ці тут была свая асаблівая культура сярэдняга перыяду бронзавага веку. У гэты час на некаторых помніках Падзвіння выраблялася кераміка з «тэкстыльнымі» адбіткамі, якая была распаўсюджана ў асноўным у Прыбалтыцы і Верхнім Паволжы.

У першай палове I тысячагоддзя да н. э. насельніцтва поўдня і захаду Падзвіння выраблялa неарнаментаванае начынне са штрыхоўкай з абодвух бакоў. Шырока

ўжываліся крамянёвыя прылады. Самым вывучаным паселішчам таго часу з'яўляецца Дубавое на паўночна-ўсходнім беразе воз. Мядзел. Пры яго раскопках знойдзены шматлікія скрабкі, скобелі, крамянёвыя нажы, нуклеусы, абломак чаранковага наканечніка стралы, шліхтаваная сланцавая сякера, штрыхаваная кераміка. Такая ж кераміка трапляецца і на паселішчы Лаўкі.

У VIII—VII стст. да н. э. на поўначы Беларусі складваецца своеасаблівая група плямёнаў, якія разам з насельніцтвам Смаленскага Падняпроўя і поўдня Пскоўскай вобласці стварылі адзіную днепра-дзвінскую куль-




Рыс. 7. Асноўныя тыпы каменных свідраваных сякер неаліту, эпохі бронзы і ранняга жалезнага веку:

1, 3 — малаткападобныя, 2 — усечанаканічная, 4 — рамбічная, 5 — клінападобная, 6 — утульчатая, 7 — лодкападобная

туру, ранні этап якой (ад VIII—VII да V ст. да н. э.) адносіцца да бронзавага веку. Насельніцтва днепрадзвінскай культуры замест неўмацаваных паселішчаў пачынае рассяляцца на слаба ўмацаваных гарадзішчах, у якасці якіх выкарыстоўваліся прыродныя марэнныя ўзгоркі і мысы. Па краях гарадзішчаў узводзіліся ўмацаванні з радоў вертыкальна пастаўленых бярвенняў ці калоў, да якіх мацаваліся гарызантальна пакладзеныя бярвенні ці плахі, краі пляцоўкі падсыпаліся. Прылады па-ранейшаму рабіліся з косці і каменя, асобныя жалезныя рэчы з'явіліся толькі ў канцы гэтага перыяду.

Адным з самых даследаваных помнікаў гэтага перыяду з'яўляецца гарадзішча Замошша ў Полацкім раёне, якое вывучалася В. І. Шадырам. У ніжніх пластах паселішча цалкам адсутнічаюць вырабы з металу. З каменных прылад найбольш шматлікімі былі плоскія сякерыкліны, долаты і цёслы, сякеры. Каменнымі былі таксама ніжнія часткі зерняцёрак, таўкачы і цёрачнікі. Шмат вырабаў з косці — долаты, праселкі, наканечнікі дзід, дроцікаў і стрэл, ручка кінжала, па-мастацку зробленыя касцяныя шпількі. Гліняны посуд меў у асноўным слоікападобную форму, арнамент наносіўся рэдка. Жытламі служылі закругленыя ў плане зямлянкі, якія можна рэканструяваць у выглядзе будана з канічным дахам. Рэшткамі падобных жытлаў з'яўляюцца выяўленыя ў час раскопак ямы дыяметрам 2,5—3,5 м і глыбінёй 1,6—1 м, якія былі запоўнены чорнай зямлёй з вугалем. Там жа сустракаецца архаічная кераміка побач з вырабамі з каменя і косці. Жыхары займаліся ў асноўным жывёлагадоўляй і рыбалоўствам, толькі дапаможнае значэнне мела падсечнае земляробства.

Матэрыялы ранняга этапу днепра-дзвінскай культуры акрамя Замошша выяўлены таксама ў ніжніх пластах гарадзішчаў Рацюнкі, Чамярычына, Гярманы, Кастрыца, Барсукі, Загаваліна, Урагава.

Значную цікавасць уяўляюць матэрыялы па духоўнай культуры старажытнага насельніцтва.

У час раскопак на Крывінскім тарфяніку былі знойдзены цікавыя творы старажытнага мастацтва. Так, на паселішчы Асавец II трапіліся два невялікія «ідалы». На думку даследчыкаў, гэта хутчэй за ўсё не партрэты рэальных асоб, а выявы міфічных герояў альбо духаў, надзеленых найбольш характэрнымі рысамі суплямен-

нікаў старажытнага майстра. Тут жа знойдзена адламаная ножка жаночай статуэткі, выразанай з рога. На адной з пасудзін пры дапамозе шнура выгравіраваны дзве фігуры мужчын, выявы якіх, відавочна, павінны былі ахоўваць змесціва начыння і яго ўладальніка. Сустракаліся скульптурныя і графічныя выявы жывёл і птушак (лася, качкі, чаплі), выразаная з рога змяя.

Важнай крыніцай для вывучэння духоўнага свету



Рыс. 8. Вёска Рацюнкі Браслаўскага раёна. Гарадзішча (VII ст. да н. э.— XIV ст. н. э.)

старажытнага насельніцтва можа служыць арнамент на кераміцы. З усіх мясцовых археалагічных культур найбольш багатым арнаментам вызначалася паўночнабеларуская культура, у якой можна налічыць многія дзесяткі, а то і сотні разнавіднасцей узораў. Перафразуючы словы вядомага савецкага археолага Б. А. Рыбакова, можна сказаць, што для першабытнай эпохі Падзвіння паўночнабеларуская культура была тым жа, чым перыяд Рэнесансу для сярэднявечча.

На неалітычнай кераміцы часта наносіліся гарызантальныя, рамбічныя, косанакіраваныя і яшчэ больш складаныя (са злучаных выгнутых ліній) арнаментальныя малюнкі. Крыху пазней пачалі ўжывацца паўсферы

і акружнасці, схематычныя малюнкі, што нагадваюць выявы нейкіх раслін, а таксама акружнасці, запоўненыя радыяльнымі лініямі. Магчыма, многія з малюнкаў можна тлумачыць як розныя сімвалы са старажытнай міфалогіі, а таксама як салярныя знакі. Не выключана, што і шнуравы арнамент меў сакральны сэнс: шнур — гэта адна з форм спіралі, а спіраль — знак агню, сонца ці жыцця ўвогуле.

У арнаментах адлюстроўваліся некаторыя паняцці аб геаметрыі і арыфметыцы. У той час чалавек мог ужо вычэрчваць геаметрычныя фігуры, вызначаць адлегласць паміж імі. Стваральнікі керамікі не былі пазбаўлены пачуцця гармоніі і сіметрыі. Многія элементы геаметрычнага арнаменту дажылі ў народным мастацтве да нашых дзён.

Пад канец II тысячагоддзя да н. э. на вялізных абшарах Сярэдняй і Паўночнай Еўропы арнамент на кераміцы становіцца значна больш бедным, а потым знікае амаль цалкам. Адначасова з гэтым на змену абраду трупапалажэння прыходзіць целаспаленне, дакладныя прычыны чаго пакуль невядомыя. Наўрад ці гэта адбылося з-за змены этнасу. Такая вялікая міграцыя насельніцтва ў той час у маштабах ледзь не ўсёй Еўропы пакуль што археалагічна не прасочваецца. Хутчэй за ўсё прычына была ў нейкім унутраным пераасэнсаванні культуры, значных зменах у светапоглядзе, рэлігійных уяўленнях.

Цалкам ранейшы арнамент усё ж не знік. Некаторыя матывы (насечкі, лукаткі, ямкі) зрэдку сустракаюцца таксама на кераміцы жалезнага веку. Паколькі ад позняй бронзы і эпохі жалеза да нас не дайшло вырабаў з дрэва, скуры і тканін, то невядома, ці арнаментаваліся гэтыя рэчы.

На паселішчах Крывінскага тарфяніку выяўлена шмат прасвідраваных зубоў жывёл. Акрамя чыста эстэтычных функцый яны, напэўна, выкарыстоўваліся і як абярэгі. Напрыклад, зубы ваўка як амулеты прымяняліся ў Беларусі ажно да пачатку XX ст. Некаторыя прылады працы і зброя ўпрыгожваліся. У прыватнасці, на каменных сякерах з в. Бачэйкава Бешанковіцкага раёна, а таксама на бронзавым кельце меларскага тыпу з Лёзненскага раёна быў арнамент. У былым Сенненскім павеце траплялiся каменныя прылады, упрыгожаныя выявамі чалавечай ці птушынай галавы. Несумненна, што

такія вырабы ўжываліся перш за ўсё з рытуальнай мэтай.

Асаблівую цікавасць уяўляюць культавыя камяні і крыніцы. У Беларускім Падзвінні, як і ў суседніх абласцях, маюцца так званыя камяні-следавікі, г. зн. камяні з паглыбленнямі, падобнымі на адбітак ступні чалавека або нагі жывёліны, якія ўшаноўваюцца насельніцтвам. Яны вядомыя каля вёсак Забежжа Віцебскага, Астроўна Бешанковіцкага, Воўкаўшчына, Ражкі і Снегі Міёрскага, Глыбачка Ушацкага раёнаў і ў іншых месцах. Выявы ступні адзначаны на петрогліфах Карэліі, на камянях у Кабыстане каля Баку, у Літве і Латвіі, на пісаніцах Сібіры і Урала, у Прычарнамор'і. Больш за 40 камянёўследавікоў вядома ў Пскоўскай вобласці. На гэтых камянях часцей за ўсё бачна выбітая паглыбленая выява адбітка чалавечай ступні, нярэдка разам з іншымі — у выглядзе слядоў конскага капыта, мядзведжай лапы, ног авечкі, ваўка, рысі, лася. Значная частка спецыялістаў лічыць такія камяні выявамі даючага жыццё сонечнага боства, якое крочыць па сусвету. Шведскі археолаг Б. Альмгрэн у сваёй працы аб скандынаўскіх наскальных выявах, у тым ліку са слядамі аголенай ступні, лічыць, што ў другой палове II тысячагоддзя да н. э. рэлігійная забарона на выяву бога была вельмі строгай, аднак зварот да нябачнага бога патрабаваў яго бачнай прысутнасці, таму і з'явіліся малюнкі адбіткаў яго ног. Археолагі мяркуюць, што выявы ступняў чалавека асабліва характэрныя для II тысячагоддзя да н. э.

Некаторыя этнаграфічныя перажыткі маюць вельмі старажытнае паходжанне. Паводле некаторых вераванняў, зязюля вяшчае смерць. На думку вучоных, гэта павер'е, якое існавала, у прыватнасці, у ваколіцах Віцебска, характэрнае для славян, балтаў і германцаў, узнікла яшчэ ў каменным веку.

Археалагічны матэрыял пры супастаўленні з дадзенымі мовазнаўства і тапанікі дае магчымасць выказаць некаторыя меркаванні па этнічнай гісторыі насельніцтва Падзвіння.

У раннім неаліце на значнай частцы тэрыторыі Усходняй Еўропы прасочваецца пэўная еднасць культур з грабеньчата-накольчатай керамікай. У Беларускім Падзвінні таксама былі распаўсюджаны культуры гэтага тыпу, носьбітамі якіх, на думку некаторых археолагаў, былі протабалты. Культуры шнуравой керамікі, якія

з'явіліся ў Беларусі на мяжы III—II тысячагоддзяў да н. э., прынята лічыць агульнымі для славян, балтаў і германцаў.

Параўнанне асноўных тыпаў матэрыяльнай культуры на поўдні Пскоўскай вобласці паказала, што пераход ад мясцовага варыянта нарвенскай культуры да паўночнабеларускай суправаджаўся значнай перабудовай культурнай сістэмы. Шматмерны статыстычны аналіз керамікі на ЭВМ таксама пацвердзіў даную выснову. Такую перабудову даследчыкі тлумачаць прытокам новага насельніцтва. Некаторыя з культур шнуравой керамікі (асабліва вісла-нёманскую ў Літве) частка даследчыкаў аб'яўляе належачымі старажытным балтам. Да ліку такіх культур варта аднесці і паўночнабеларускую, паколькі генетычнымі рысамі яна звязана з вісла-нёманскай. Антраполаг Р. Я. Дзянісава, грунтуючыся на антрапалагічным матэрыяле, выказала думку аб тым, што насельніцтва Беларусі сваім паходжаннем звязана з мясцовымі плямёнамі культур шнуравой керамікі. Абапіраючыся на аналогіі, яна зрабіла вывад аб іх балцкай прыналежнасці. Можна меркаваць, што з захаду ці з паўночнага захаду «шнуравікі» — прабалты праніклі ў Беларускае Падзвінне і зліліся з мясцовым абарыгенным насельніцтвам — плямёнамі нарвенскай культуры і культуры тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі. Калі, як мяркуецца, насельніцтва нарвенскай культуры было індаеўрапейскім, то гэта аблегчыла яго асіміляцыю. Н. М. Гурына сцвярджае, што нарвенская культура з'явілася адным з кампанентаў, якія ўдзельнічалі ў складанні балцкага этнасу.

## «КРАЙ ЦЯПЕР НАСЯЛЯЮЦЬ ЖАЛЕЗНЫЯ ЛЮДЗІ...»

Гэтыя радкі старажытнага паэта вынесены ў загаловак не выпадкова. Пераход да вытворчасці вырабаў з жалеза сапраўды быў буйным пераваротам, значна ўзмацніў чалавецтва перад прыродай. Жалезныя вырабы на поўначы Беларусі распаўсюдзіліся ў другой палове I тысячагоддзя да н. э., а ў шырокі ўжытак увайшлі толькі незадоўга да нашай эры. Для параўнання можна адзначыць, што на поўдні нашай рэспублікі яны з'явіліся ў VII—VI стст. да н. э.

Аб здабычы і апрацоўцы жалеза сведчаць знаходкі

пры раскопках помнікаў жалезных вырабаў, а таксама рэшткаў сырадутных горнаў, дзындры (шлаку), крыц, балванак і іншых слядоў вытворчасці. Паколькі такія сляды сустракаюцца на ўсіх даследаваных гарадзішчах, то варта думаць, што іх жыхары атрымлівалі жалеза прама на месцы. Сыравінай служыла мясцовая балотная руда, невялікія залежы якой трапляюцца ў многіх раёнах. Здабычай і апрацоўкай руды займалася практычна кожная родавая сям'я. Спачатку ў месцах выхаду балотнай руды на паверхню, асабліва ў размывах рэк і ручаёў, яе кавалкі збіраліся і высушваліся. Потым руду разбівалі і таўклі каменнымі таўкачамі, пасля чаго яе разам з распаленым драўняным вугалем загружалі ў невялікія печы-домніцы, нагнятаючы туды паветра для лепшага гарэння. У выніку хімічных працэсаў адбывалася рэакцыя аднаўлення, пры якой выпадала металічнае жалеза ў выглядзе дробных размякчаных зярнят. Паколькі тэмпература ўнутры домніцы была недастатковай для плаўлення, то жалеза не плавілася, а спякалася паміж сабой. Гэтую порыстую масу (крыцу) пракоўвалі, ачышчаючы ад дзындры. Шляхам далейшай кавальскай апрацоўкі з крыц рабілі разнастайныя прадметы. З прылад працы каваля былі знойдзены жалезныя і каменныя молаты, жалезныя прабойнікі і рубілы. Аб высокім узроўні апрацоўкі жалеза сведчаць вынікі спецыяльных аналізаў. Насельніцтву гарадзішчаў была вядома зварка, пазней ужывалася таксама «пакетаванне» — зварка вырабу з некалькіх кавалкаў жалеза рознай якасці. З прылад працы часта сустракаюцца жалезныя сякеры, сярпы, адмысловыя нажы для жніва і проста для рэзання, іголкі і шылы, брытвы. Для паляўнічых, а таксама ваенных мэт ужываліся наканечнікі дзід, дроцікаў, стрэл. З жалеза рабілі і ўпрыгожанні — бранзалеты, шпількі, падвескі. Для гэтых жа мэт ужывалі і бронзу. На адным з гарадзішчаў была выяўлена формачка для бронзавага ліцця.

Па-ранейшаму, асабліва ў пачатку эпохі, значнае распаўсюджанне мелі каменныя прылады, асабліва каменныя свідраваныя сякеры. Пры некаторых з іх траплялiся стрыжні, якія засталіся ад свідравання адтулін, што сведчыць аб мясцовай вытворчасці сякер. Каменныя сякеры на поўначы Беларусі і на Смаленшчыне выкарыстоўвалі да пачатку нашай эры. Невялікія памеры адтулін у абухах дазваляюць меркаваць, што для тапары-

шчаў выкарыстоўваліся трывалыя пароды дрэва. Аналіз археалагічных матэрыялаў са старажытнапрускіх зямель паказаў, што ў такіх выпадках часцей за ўсё ўжывалася драўніна граба, радзей — дуба.

Даволі распаўсюджанымі былі таксама каменныя несвідраваныя сякеры-кліны, якіх пры раскопках у Падзвінні выяўлена больш за 200 экземпляраў. Служылі яны, верагодна, для апрацоўкі дрэва. З іншых каменных прадметаў вядомы зерняцёркі, таўкачы, тачыльныя брускі, камяні для шліхтавання і кавадлы.

Як і раней, шырока ўжываліся прылады з рога і косці. Жалеза яшчэ не магло цалкам замяніць іншыя матэрыялы. Узрастаючая патрэба ў сыравіне для вытворчасці задавальнялася за кошт лёгкадаступнага матэрыялу, які давалі жывёлагадоўля і паляванне. Да таго ж косць лёгка паддавалася апрацоўцы. У жалезным веку форма такіх прылад стала больш простая, некаторыя з іх па форме былі падобныя да металічных. З прылад працы не раз знаходзілі касцяныя шылы і праколкі, зробленыя з тонкіх трубчастых касцей, расшчэпленых уздоўж, абсечаных і завостраных на канцах. Вядомы таксама качадыкі для пляцення вырабаў з лыка або шнура, вастрыі для ўтварэння ямак ці ліній у мяккай масе, долаты, іголкі. З прылад для апрацоўкі скуры ўжываліся касцяныя стругі, ці «тупікі», зробленыя са скабаў ці лапатак буйной жывёлы, якія служылі для выскрэбвання скуры ад рэшткаў мяздры і тлушчу. На гарадзішчы Замошша пад Полацкам выяўлена касцяное праселка, выробленае з пазванка рыбы. Шмат трапляецца розных прылад для палявання — наканечнікі стрэл, дзід, ручкі ад кінжалаў і нажоў. Значную групу знаходак складаюць касцяныя дэталі адзення і ўпрыгожанні, у першую чаргу разнастайныя шпількі. Многія з іх маюць даволі складаную форму, некаторыя ўпрыгожаны арнаментам.

Самымі шматлікімі сярод знаходак з'яўляюцца фрагменты глінянага ляпнога посуду, пры вырабе якога пераважаў спосаб «латкавага налепу», што вынікае з перарыўнасці ў сценках глінянага жгута і неўпарадкаванага размяшчэння асобных кавалачкаў гліны. Увесь посуд быў пласкадонны, фармаванне яго вялося на цвёрдых падстаўках, часта з ужываннем сырога пяску, для таго каб гліна асабліва не прыліпала да падстаўкі. Спачатку пераважала кераміка слоікападобнай формы, пазней стала больш слабапрафіляванай. У верхняй частцы




Рыс. 9. Рэчы з косці, жалеза і гліны днепра-дзвінскай культуры:
1—6 — касцяныя прылады і ўпрыгожанні, 7—9 — жалезныя наканечнікі дзід,
10—19 — гліняны посуд, 21—24 — гліняныя праселкі з арнаментам

пасудзіны нярэдка нанесены арнамент часцей за ўсё ў выглядзе скразных адтулін, ямак, пракрэсленых і наразных ліній. Некаторыя ўзоры нагадваюць арнамент паўночнабеларускай культуры. Паверхня чарапкоў часта бугрыстая ад вялікай колькасці жарствы ў цесце. У паўночна-заходняй частцы Падзвіння (Урагава, Абрамава, Барсукі) і на поўдні сустракаецца кераміка са штрыхоўкай, на паўночным усходзе трапляецца сеткавая, ці тэкстыльная, кераміка. З гліны выраблялі таксама праселкі, што ўжывалі як грузікі для верацён. На некаторых гарадзішчах знаходзяць так званыя грузікі «дзякавага тыпу». Для бронзаліцейнай вытворчасці служылі гліняныя тыглі і льячкі.




Рыс. 10. Важнейшыя помнікі жалезнага веку Падзвіння:
1 — Стругалапы, 2 — Дубавое, 3 — Прудпікі, 4 — Урагава, 5 — Барсукі, 6 — Язна, 7 — Паддубнікі, 8 — Пліса I, 9 — Свіла I, 10 — Янкавічы, 11 — Павалішына, 12 — Ворань I, 13 — Кардон, 14 — Буракова, 15 — Лаўкі, 16, 17 — Дарахі, 18 — Двухполле, 19 — Бабінавічы; I — селішчы, II — гарадзішчы, III — доўгія курганы

Сярод гаспадарчых заняткаў асноўную ролю да канца I тысячагоддзя да н. э. адыгрывалі жывёлагадоўля і паляванне. У гэты час на поўначы Беларусі былі вядомы ўсе асноўныя віды свойскай жывёлы: каровы, козы, коні і свінні. Трэба адзначыць, што пераважала буйная рагатая жывёла. Знаходкі вупражы сведчаць пра выкарыстанне коней для верхавой язды. Магчыма, акрамя гаспадарчага прызначэння коні адыгрывалі важную ролю



Рыс. 11. Вёска Турэц Полацкага раёна. Гарадзішча

і ў рэлігійным кульце. Асноўнымі аб'ектамі палявання былі дзік, лось, зубр, ліса, бабёр.

З цягам часу ў гаспадарцы ўзрастала ўдзельная вага падсечнага земляробства. Сеялі хутчэй за ўсё ячмень, авёс, проса, бабовыя.

Частку прадуктаў харчавання давалі рыбалоўства і збіральніцтва. Пра рыбалоўства сведчаць выяўленыя на гарадзішчах кручкі і восці. Рэшткі сетак, на жаль, не захаваліся. Слядамі існавання збіральніцтва трэба лічыць знойдзеныя ракавіны малюскаў і шкарлупіны ад арэхаў.

З паселішчаў ранняга жалезнага веку вядомы толькі

гарадзішчы, якія размяшчаліся недалёка ад прыродных вадаёмаў. Прыблізна да V—IV стст. да н. э. на іх не было ніякіх абарончых збудаванняў. Пазней па краях гарадзішчаў сталі насыпаць адзін, а то і некалькі валоў, рабіць перад імі равы. Па грэбеню вала ўзводзілася драўляная сцяна. Жытламі служылі наземныя слупавыя збудаванні чатырохкутнай формы. Яны падоўжаныя, шматкамерныя, у кожным памяшканні быў каменны ачаг. Прыблізна з пачатку нашай эры павялічваецца плошча асобных жылых памяшканняў, з'яўляюцца даволі вялікія, аднакамерныя дамы, якія, аднак, стаяць асобна. Падлога абмазвалася глінай.

Даследаванне гарадзішчаў паўночнай Беларусі дазволіла высветліць, што гэтая тэрыторыя ад VIII—VII стст. да н. э. і да IV—V стст. н. э. была заселена плямёнамі днепра-дзвінскай культуры, толькі на захадзе і поўдні помнікі належалі да культуры штрыхаванай керамікі. Днепра-дзвінская культура ахоплівала амаль усё Беларускае Падзвінне, вярхоўі Дняпра, Смаленшчыну, частку Пскоўскай, Калінінскай, Калужскай і Бранскай абласцей. З прычыны слабай вывучанасці перыядаў сярэдняй і позняй бронзы паходжанне гэтай культуры пакуль невядома. У большай меры высветлена пытанне яе этнічнай прыналежнасці. Тэрыторыя распаўсюджання днепра-дзвінскай культуры характарызуецца вялікай колькасцю балцкіх гідронімаў (напрыклад, назваў рэк і азёр), мяжа распаўсюджання якіх у значнай меры супадае з археалагічнымі межамі. Значыць, у старажытнасці тут жылі балцкія плямёны. На паўночным усходзе Беларускага Падзвіння адчуваўся ўплыў фіна-угорскіх плямёнаў з тэкстыльнай (сеткавай) керамікай.

Поўнач сучаснай Беларусі даволі рана стала вядомай і для людзей з цэнтраў тагачаснай еўрапейскай цывілізацыі. Яшчэ ў V ст. да н. э. старажытнагрэчаскі гісторык Герадот пісаў пра племя, якое ён назваў андрафагамі. Як мяркуе Б. А. Рыбакоў, андрафагам магло адпавядаць насельніцтва днепра-дзвінскай культуры ці культуры штрыхаванай керамікі. У часы Рымскай імперыі некаторыя аўтары згадвалі ў сваіх працах раку Рубон або Рудон. На думку ленінградскага даследчыка Вас. А. Булкіна, прысвяціўшага гэтаму пытанню адзін са сваіх артыкулаў, Рубон — гэта Заходняя Дзвіна. Такую назву, па некаторых звестках, яна захоўвала яшчэ ў сярэднявеччы.

Далейшае сацыяльна-эканамічнае і этнічнае развіццё насельніцтва Беларусі прывяло ў IV—V стст. да значных змен у яго жыцці. Заселеныя крэўнымі свякамі гарадзішчы сталі тормазам гаспадарчага прагрэсу, яны стрымлівалі ініцыятыву найбольш прадпрымальных родаў, перашкаджалі асваенню новых земляў і гандлёваму абмену. Усё гэта прывяло да таго, што старыя патрыярхальныя гарадзішчы, якія сталі эканамічна нявыгаднымі, былі пакінуты, а замест іх узніклі неўмацаваныя селішчы. Магчыма, што на змену родавай абшчыне прыйшла тэрытарыяльна-суседская, а грамадска-палітычная арганізацыя змагла больш эфектыўна, чым раней, гарантаваць бяспеку асобных сем'яў.

Балцкія культуры — днепра-дзвінская, штрыхаванай керамікі і некаторыя іншыя пад уплывам інтэграцыйных працэсаў зліваюцца ў адну, якая атрымала ў археалагічнай літаратуры назву банцараўскай, банцараўска-тушамлянскай ці тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны—Тушамлі—Калочына. На думку некаторых мовазнаўцаў, усходняя мяжа гэтай культуры супадае з пазнейшымі межамі рассялення беларускага народа. Роля гэтага субстрата ў паходжанні беларусаў была настолькі значная, што пакінула сляды праз шмат стагоддзяў.

У V—VI стст. палітычныя абставіны, відаць, былі спакойныя, паколькі насельніцтва банцараўскай культуры жыло на селішчах, не звязаных з гарадзішчамі. Цікава, што амаль усе даследаваныя ў Падзвінні селішчы таго часу знойдзены на месцы стаянак каменнага і бронзавага вякоў, на нізкай першай надпоплаўнай тэрасе рэк і азёр, ля самай вады (Дубавое і Стругалапы Мядзельскага, Бабінавічы I Лёзненскага, Лаўкі Чашніцкага, Двухполле, Дарахі, Мяжа Гарадоцкага, Ворань Лепельскага, Пліса Глыбоцкага раёнаў і інш.). Такое размяшчэнне можна тлумачыць па-рознаму. Магчыма, што тут прымаліся да ўвагі прыродныя фактары — зручнае размяшчэнне ля вадаёмаў, да таго ж V—VI стст. палеагеографы лічаць часам нізкага ўзроўню стаяння вод, як і ў некаторыя перыяды эпохі каменя і бронзы.

К канцу VI ст. палітычнае становішча, напэўна, змянілася і стала трывожным, таму селішчы VII—VIII стст. размяшчаюцца побач са старымі гарадзішчамі. Самі гарадзішчы былі ператвораны ў крэпасці-сховішчы, значна ўмацаваныя дадатковымі валамі шляхам падсыпкі краю пляцовак, абарончымі драўлянымі сценамі. Такія

гарадзішчы з селішчамі вядомы каля вёсак Урагава Верхнядзвінскага, Буракова Гарадоцкага, Свіла Глыбоцкага, Кардон Шумілінскага раёнаў і г. д.

Пры раскопках банцараўскіх паселішчаў акрамя шматлікіх фрагментаў ляпной гладкасценнай керамікі з жарствой у цесце знаходзяць прылады працы і зброю:




Рыс. 12. Кераміка (1—3, 7—10) і жалезныя прылады працы (4—6) культуры тыпу верхняга пласта Тушамлі — Банцараўшчыны

жалезныя нажы, сярпы, цуглі і шпоры — прыналежнасць конніка, шылы, сякеры, наканечнікі дзід, стрэл, іголкі. З бронзы рабілі бранзалеты, званочкі, падвескі. Касцяныя вырабы трапляюцца рэдка. Даволі шматлікія гліняныя праселкі. Насельніцтва жыло ў наземных або ў паўзямлянначных жытлах чатырохкутнай формы з адкрытымі вогнішчамі ці печамі-каменкамі ў сярэдзіне. Пабудовы былі слупавой канструкцыі, а таксама зрубныя плошчай каля 12—20 кв. м, зрэдку сустракаліся меншыя. На шэрагу помнікаў побач з жытламі размяшчаліся гаспадарчыя збудаванні — часцей за ўсё ямы-скляпы ўсечанаканічнай ці звонападобнай формы.

У параўнанні з папярэднім часам гаспадарка ўзнялася на больш высокі ўзровень развіцця. Істотна ўзрасло значэнне падсечнага земляробства. Сеялі пшаніцу, проса, гарох, конскі боб, віку, жыта. Значную ролю адыгрывала жывёлагадоўля. Знойдзены косці быка, авечкі, каня і свінні. Паляванне і рыбалоўства мелі дапаможнае значэнне. У асноўным палявалі на такіх звяроў, як лось, дзік, мядзведзь, куніца, ліса і заяц. З рыбалоўных прылад трапляюцца грузілы, кручкі, восці і блешні. На кожным даследаваным паселішчы выяўлены сляды вытворчасці па апрацоўцы жалеза — абломкі печаў-домніц, дзындра, крыцы і кавалкі жалезнай руды, гліняныя льячкі, фрагменты тыгляў. У некаторых месцах Падзвіння выяўлены ліцейныя формачкі для вырабу лунніц, якія датуюцца VII—VIII стст.

У лік упрыгожанняў насельніцтва з помнікаў банцараўскай культуры ўваходзілі таксама разнастайныя падвескі, скроневыя колцы, бранзалеты, шыйныя грыўні, паясы з сярэбранымі спражкамі і мноствам такіх жа бляшак, шкляныя з пазалотай, гліняныя і бурштынавыя пацеркі, фібулы. Лунніцы аздабляліся чырвонай эмаллю.

Даследаванні паказалі, што большасць бронзавых вырабаў, зброя, сярпы і шпоры з паселішчаў банцараўскай культуры належаць да тыпаў, якія не сустракаюцца ў старажытных славян, але ў той жа час былі характэрныя для больш ранніх балцкіх культур, а таксама для насельніцтва Літвы і Латвіі перыяду ранняга сярэднявечча.

Вялікія памеры паселішчаў сведчаць аб тым, што на іх сяліліся людзі некалькіх родаў. Відавочна, на змену родавай абшчыне прыходзіла тэрытарыяльная. Можна дапусціць існаванне ў гэты час саюза плямён, у якім вяр-

хоўная ўлада належала князю, радзе старэйшын і даросламу ўзброенаму мужчынскаму насельніцтву.

З пахавальных помнікаў вядомы трупаспаленні ў грунтавых ямах і ў курганах. Нябожчыка спальвалі разам з рэчамі, з якіх знойдзены пераважна розныя ўпрыгожанні і посуд. Курганы былі як круглыя, так і доўгія або падоўжныя.

На некаторых гарадзішчах банцараўскай культуры на



Рыс. 13. Вёска Пруднікі Міёрскага раёна. Гарадзішча

Смаленшчыне даследаваны язычніцкія свяцілішчы. Напрыклад, на гарадзішчы Тушамля свяцілішча ўяўляла сабой круглую ўтаптаную пляцоўку дыяметрам шэсць метраў, па краях якой стаялі слупы — выявы багоў. У цэнтры пляцоўкі знаходзіўся больш высокі і масіўны слуп, які служыў, напэўна, выявай галоўнага бога. У межах БССР такія свяцілішчы пакуль што не выяўлены. Культавымі прадметамі служылі знойдзеныя на некаторых помніках жалезныя нажы, верхняя частка якіх заканчваецца двума спіралепадобнымі завіткамі. Вядома, што ў славянскіх землях такімі нажамі карысталіся для рэлігійных мэт.

На шэрагу помнікаў выяўлены сляды пранікнення славян. Відавочна, на балцкія паселішчы падсяляліся асоб-

ныя групы славян. Невядома толькі, у якой ролі яны выступалі: каланістаў, воінаў ці палонных-нявольнікаў.

Тэрыторыя паўночнага захаду Міёрскага і часткі Браслаўскага раёнаў не адносілася да арэала банцараўскай культуры. Помнікі, якія тут знаходзяцца (напрыклад, гарадзішча і селішча Пруднікі), хутчэй за ўсё належалі старажытнаму племені латгалаў.

У VI—VII стст. на поўнач ад тэрыторыі банцараўскай культуры — на Пскоўшчыне і на ўсходзе Эстоніі — з'явілася насельніцтва, якое хавала сваіх нябожчыкаў у доўгіх курганах, якія ўяўляюць сабой валападобныя насыпы даўжынёй ад 12—15 да 40 м пры шырыні 5—10 м і вышыні 1—2 м. Асобныя курганы дасягаюць даўжыні 50, а то і 100 м. Колькасць пахаванняў у адным кургане бывае ад 1—2 да 22. Перад пахаваннем нябожчыкі папярэдне спальваліся па-за межамі кургана. Рэшткі спаленых касцей разам з абгарэлымі рэчамі ці без іх часта размяшчалі ў глінянай або берасцяной пасудзіне ў розных месцах валападобнага насыпу. Гліняны посуд выраблялся яшчэ ўручную, меў адметную ад керамікі іншых культур форму. Толькі ў некаторых доўгіх курганах сустракаецца посуд тыпу Тушамлі—Банцараўшчыны. У прыватнасці, да такіх помнікаў адносіцца курган каля Янкавічаў у Расонскім раёне. Старажытныя доўгія і падоўжныя курганы былі раскопаны таксама каля вёсак Субаўшчына Полацкага, Павалішына Расонскага, Дарахі Гарадоцкага раёнаў і ў іншых месцах.

Акрамя керамікі ў пахаваннях трапляюцца разнастайныя шкляныя пацеркі, жалезныя і бронзавыя спражкі, бляшкі-шкарлупінкі, бранзалеты, пярсцёнкі, а з прылад працы — жалезныя нажы, шылы, сярпы, наканечнікі дзід, рыбалоўныя кручкі, крэсівы, цуглі, шпоры, бронзавыя пінцэты, ліцейныя формачкі, абломкі касцяных прадметаў. Дзе-нідзе знаходзілі дэталі жаночага галаўнога ўбору ў выглядзе венчыка тыпу латгальскай вайнагі. Для доўгіх курганоў Полаччыны характэрныя знаходкі касцяных прывесак у выглядзе птушачак.

Як ужо адзначалася, самыя раннія доўгія курганы з'явіліся ў раёне воз. Пскоўскага і р. Вялікай, а таксама ў вярхоўях р. Ловаці. На тэрыторыі Віцебшчыны помнікі гэтага тыпу адзінкавыя і трапляюцца толькі на паўночнай ускраіне вобласці (Янкавічы). Увогуле ж доўгія курганы распаўсюджваюцца на Полаччыне

і Смаленшчыне ў VIII—IX стст. Культура доўгіх курганоў мае генетычную пераемнасць з больш позьнімі старажытнасцямі племяннога саюза крывічоў. Акрамя таго, арэал доўгіх курганоў у цэлым ахоплівае тры старажытныя ўсходнеславянскія землі — Полацкую, Смаленскую і Пскоўскую, якія, згодна з летапісамі былі заселены крывічамі — самым буйным племянным аб'яднаннем сярод усходніх славян. На думку даследчыкаў, у прыватнасці В. В. Сядова, крывічы як асобная племянная адзінка сфарміраваліся на Пскоўшчыне, а таксама ў Полацкім Падзвінні і Смаленскім Падняпроўі. У іх складванні разам са славянамі ўдзельнічалі балты і прыбалтыйска-фінскія плямёны. Мясцовае дазлавянскае насельніцтва паступова было славянізавана. Некаторыя даследчыкі лічаць, што доўгія курганы пакінуты балтамі. У летапісах пры пераліку славянскіх плямёнаў крывічы ні разу не названы славянамі. Больш таго, летапісец звычайна згадваў крывічоў перад ці пасля пералічэння неславянскіх народаў. Зыходзячы з гэтага, робіцца выснова, што крывічы былі або моцна балтызаванымі славянамі, або ўсходнімі балтамі.

У «Аповесці мінулых гадоў» указваецца, што крывічы жылі «...на верхъ Волги, и на верхъ Двины и на верхъ Днепра, их же градъ есть Смоленскъ», а таксама, што «перьвии насельници... въ Полотьски кривичи». Летапісныя звесткі пра тое, што заснавальнікамі Полацка былі крывічы, знаходзяць пацвярджэнне і ў археалагічным матэрыяле. Так, на Полацкім гарадзішчы пры раскопках была знойдзена гліняная пасудзіна VIII ст., аналагічная кераміцы з доўгіх курганоў.

Пазней крывічы шырока рассяляюцца за межы сваёй першапачатковай тэрыторыі і на поўдні дасягаюць Заслаўя, Барысава, Шклова і нават Рагачова, а на захадзе пранікаюць на абшары Верхняга Панямоння. Пэўнае ўяўленне дае тапаніміка: назва «Крывічы» сустракаецца ў Глыбоцкім, Мядзельскім, Валожынскім, Лідскім, Зэльвенскім, Іўеўскім, Пінскім і Салігорскім раёнах. Праўда, пакуль што не высветлена, калі ўзніклі паселішчы з такой назвай. Вядомы мовазнаўца Г. А. Хабургаеў лічыць, што да прыходу славян на тэрыторыі паўночнай Беларусі жыло балцкае племя «krieva». Пасля яго славянізацыі да назвы племя дадаўся славянскі канчатак «-вічы».

Этнонім «крывічы» многія даследчыкі выводзяць ад

імя роданачальніка племя — Крыва ці Крыве, які мог быць або балтам, або славянінам. Пры гэтым звычайна спасылаюцца на тое, што вярхоўны жрэц старажытных прусаў называўся Крыве-Крывейтэ. Такую назву насіў ён і ў літоўцаў. Як сведчаць некаторыя крыніцы, у часы язычніцтва прусы і літоўцы мелі рэлігійныя сувязі з усходнімі славянамі.

На думку аўтара, этнонім «крывічы» мог належаць спачатку насельніцтву банцараўскай культуры, паколькі тапонімы тыпу «Крывічы» трапляюцца каля заходніх межаў гэтай культуры або ў некаторым аддаленні ад яе арэала. Вядома, што тапонімы, утвораныя ад назваў плямёнаў ці народаў, сустракаюцца не ў глыбіні этнічнай тэрыторыі, а там, дзе ўзнікае неабходнасць адрозніць народ ці племя ад суседняга.

Цікавую гіпотэзу наконт крывічоў выказаў гісторык А. П. П'янкоў, які лічыць, абапіраючыся на летапісныя звесткі, што пэўны час існаваў магутны Крыўскі племянны саюз, у склад якога ўваходзілі не толькі крывічы, але таксама дрыгавічы, радзімічы, вяцічы і севяране, г. зн. тэрыторыя саюза ахоплівала землі ў вярхоўях Волгі, Заходняй Дзвіны, Дняпра, басейны Бярэзіны, Сожа, Дзясны, Сейма і Акі. Праўда, археалагічныя дадзеныя не даюць магчымасці пагадзіцца з прапануемым А. П. П'янковым часам утварэння гэтага саюза — першай паловай I тысячагоддзя н. э.

Для пакланення паганскім багам старажытныя жыхары Падзвіння спрадвеку выкарыстоўвалі гаі і ўзгоркі, а ў VIII ст. і да прыняцця хрысціянства для гэтых мэт пачалі ўзводзіць спецыяльныя свяцілішчы. На ўзгорках або выспах сярод балот рабіліся роўныя круглыя пляцоўкі, абведзеныя ровам або ровам і невысокім валам. У цэнтры пляцовак маглі ставіцца драўляныя або каменныя ідалы. Такія помнікі выяўлены на тэрыторыі суседняй Смаленскай вобласці. Нягледзячы на тое што на Віцебшчыне пошукі іх пакуль не вяліся, сляды некаторых помнікаў язычніцкага культу тут усё ж трапляюцца. Так, па некаторых звестках, у мінулым стагоддзі на востраве воз. Богінскага пад Браславам трымаўся высокі капец, у сярэдзіне якога была старой веры бажніца з адзіным аконцам, праз якое прамень сонца ўнутр падаў толькі роўна ў поўдзень. На тым жа востраве быў знойдзены ідал велічынёй у палову чалавечага росту, з адбітай галавой і складзенымі на грудзях ру-

камі. Сярод мясцовых жыхароў ідал называўся стодам. Пры абследаванні гэтага вострава аўтарам было выяўлена гарадзішча жалезнага веку, у старажытнасці заселенае балтамі. Верагодна, бажніца старой веры і стод былі пакінуты або імі, або славянамі, якія прыйшлі пазней і маглі ператварыць закінутае да таго часу гарадзішча ў культавы цэнтр.

Каменныя стоды былі знойдзены таксама ў кургане каля в. Экімань Полацкага раёна, а таксама ў ваколіцах Лепеля.

Далейшае сацыяльна-эканамічнае і палітычнае развіццё крывічоў прывяло да разлажэння ў іх першабытнага ладу, узнікнення першых форм дзяржаўнасці. Пад 862 г. у летапісе ўпершыню згадваецца Полацк («Полотеск») як адзін з цэнтраў крывічоў, сталіца княства. На тэрыторыі паўночнай Беларусі пачынаецца эпоха феадалізму.

## «ЖЫВЕ З ЁЙ ДУМ МАІХ СЯМ'Я...»

Археалагічныя помнікі поўначы Беларусі першабытнага часу — старажытныя стаянкі і гарадзішчы, селішчы і курганы, таямнічыя камяні з рознымі выявамі і «перуновы стрэлы» — гэта каштоўныя сведкі нашай гісторыі, яе матэрыяльнае ўвасабленне. Знаходкі з некаторых помнікаў ужо ўпрыгожваюць стэнды музеяў, іншыя яшчэ чакаюць дбайных рук археолагаў. Несумненна, што дзякуючы далейшым даследаванням адкрыецца яшчэ не адна старонка гісторыі Падзвіння.

Духоўнае развіццё грамадства выклікае заканамернае ўзрастанне цікавасці да свайго мінулага, пошукі пракаветных каранёў. Адлюстраваннем гэтага, у прыватнасці, з'яўляецца выданне «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», у тым ліку яго тома па Віцебскай вобласці.

Прыняты ў 1978 г. Вярхоўным Саветам БССР Закон «Аб ахове помнікаў гісторыі і культуры» значную ўвагу ўдзяляе помнікам археалогіі: прадугледжаны іх строгі ўлік, захаванне і ахова. У адпаведнасці з гэтым нарматыўным актам археолагамі і краязнаўцамі праводзіцца работа па выяўленню і фіксацыі археалагічных аб'ектаў, на многіх з помнікаў ужо ўстаноўлены ахоўныя знакі, вядзецца ўліковая дакументацыя. Закон

папярэджвае аб строгай адказнасці за пашкоджанне ці разбурэнне помнікаў. Несумненна, што многія са старажытных паселішчаў ці магільнікаў яшчэ будуць выяўлены. Магчыма, гэта здарыцца ў час сельскагаспадарчых ці будаўнічых работ. Адкрыццё можа адбыцца таксама дзякуючы пачутай кімсьці дапытлівым мясцовай легендзе. У гэтым выпадку трэба паведаміць археолагам Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, а таксама падаць звесткі аб помніку на ўлік у раённае Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры ці аддзел культуры райвыканкома. Ні ў якім разе нельга самавольна праводзіць раскопкі. Дазвол на раскопкі (адкрыты ліст) выдаецца Акадэміяй навук толькі кваліфікаваным даследчыкам і прадугледжвае максімальна поўнае вывучэнне, фіксацыю ўсіх знаходак пры дакладным захаванні методыкі даследавання. Раскопкі, праведзеныя не спецыялістам, могуць беззваротна знішчыць помнік, пазбавіць магчымасці здабыць пра гэты аб'ект усю неабходную інфармацыю для навукі. Помнікі археалогіі — каштоўнейшая крыніца аб жыцці нашых далёкіх продкаў, нашай гісторыі, якую неабходна зберагчы.

# КАРОТКІ СЛОЎНІК АРХЕАЛАГІЧНЫХ ТЭРМІНАЎ

Адшчэп — асколак, адбітак ад кавалка крэменю або крамянёвага нуклеуса рукой чалавека пры іх апрацоўцы.

Археалагічная культура — гістарычная агульнасць археалагічных помнікаў пэўнага перыяду, якія маюць шэраг уласцівых толькі ім рыс і размяшчаюцца на акрэсленай тэрыторыі. Пры выдзяленні асобнай археалагічнай культуры перавага аддаецца прыкметам, якія не залежаць ад прыродных умоў ці аднолькавай ступені развіцця (форма і арнаментацыя посуду, упрыгожанні, пахавальны абрад і г. д.).

Гарадзішча — умацаванае паселішча, звычайна жалезнага веку ці эпохі феадалізму, а таксама рэшткі такога паселішча.

Дзіда — кап'ё, старадаўняя колючая зброя ў выглядзе доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам.

Культурны пласт — пласт з рэшткамі дзейнасці людзей.

Курган — насып над старажытнай магілай, часцей за ўсё круглы, доўгі або авальны ў плане.

Нуклеус — крамянёвае ядрышча, ад якога адбівалі пласціны і адшчэпы для вырабу прылад.

Падвескі — від старажытных падвесных упрыгожанняў да адзення, збруі, прычосак і г. д.

Паселішча — неўмацаванае сталае пасяленне каменнага ці бронзавага веку.

Праколка — першабытная прылада працы з крэменю або косці з завостранай з абодвух бакоў пярэдняй часткай.

Праселка — гліняны або каменны грузік з адтулінай у цэнтры, які служыў для павелічэння інерцыі вярчальнага руху верацяна.

Разец — прылада, якая выраблялася з крамянёвых пласцін або адшчэпаў шляхам сколвання з аднаго ці двух бакоў. Ужываўся для апрацоўкі косці, рога і некаторых парод каменя.

Селішча — неўмацаванае пасяленне жалезнага веку ці эпохі феадалізму.

Скобель, скобля — крамянёвая прылада з рэтушаваным дугападобным увагнутым рабочым краем, прызначаная для стругання.

Скрабок — крамянёвая прылада са злёгку выпуклым рабочым краем, апрацаваная рэтушшу. Прызначалася для апрацоўкі скуры, рога, косці і дрэва.

Скрэбла — крамянёвая прылада з дугападобным выпуклым рабочым краем, апрацаваным рэтушшу.

Стаянка — часовае пасяленне чалавека каменнага ці бронзавага веку з нязначным культурным пластом.

Фібула — металічная шпілька для верхняга адзення ў старажытныя часы.

Цясла — крамянёвая або металічная прылада для апрацоўкі драўніны.

# ЛІТАРАТУРА

Зайковский Э. М. Неолит и бронзовый век Белорусского Подвинья: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Вильнюс, 1985.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць. Мн., 1985.

Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. Памятники каменного века. Мн., 1968. Вып. 1.

Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. Памятники бронзового века. Мн., 1976. Вып. 3.

Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э. — VIII в. н. э.). Мн., 1978.

Поболь Л. Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Мн., 1983.

Седов В. В. Восточные славяне в VI—XIII вв. // Археология СССР. М., 1982.

Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970.

Шадыро В. И. Ранний железный век северной Белоруссии. Мн., 1985.

Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии: Памятники железного века и эпохи феодализма. Мн., 1971. Вып. 2.

## ЗМЕСТ

Научно-популярное издание

**Зайковский Эдуард Михайлович**

**ПЕРВОБЫТНЫЕ ПАМЯТНИКИ СЕВЕРНОЙ БЕЛОРУССИИ**

Минск, издательство «Навука і тэхніка»

*На белорусском языке*

Навукова-папулярнае выданне

**Зайкоўскі Эдуард Міхайлавіч**

**ПЕРШАБЫТНЫЯ ПОМНІКІ ПАЎНОЧНАЙ БЕЛАРУСІ**

Загадчык рэдакцыі А. І. Валахановіч
Рэдактар А. В. Губіч
Мастак І. А. Лабанава
Мастацкі рэдактар А. А. Кулажэнка
Тэхнічны рэдактар В. І. Кручонак
Карэктар Я. В. Марціновіч

ІБ № 3475

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР.
Здадзена ў набор 28.12.89. Падпісана ў друк 27.03.90.
Фармат $84\times108^{1}/_{32}$.
Папера газетная. Гарнітура літаратурная.
Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,52.
Ум. фарб.-адб. 2,84. Ул.-выд. арк. 2,22.
Тыраж 2640 экз. Зак. № 209. Цана 10 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка»
Акадэміі навук БССР
і Дзяржаўнага камітэта БССР па друку.
220600. Мінск, Жодзінская, 18.
Друкарня імя Францыска Скарыны
выдавецтва «Навука і тэхніка».
220600. Мінск, Жодзінская, 18.

**Зайкоўскі Э. М.**

З-17 Першабытныя помнікі паўночнай Беларусі / Пад рэд. М. М. Чарняўскага.— Мн.: Навука і тэхніка, 1990. — 44 с.: іл.
ISBN 5-343-00166-1.

**Зайковский Э. М. Первобытные памятники северной Белоруссии.**

**Асвятляецца старажытная гісторыя паўночнай Беларусі ад мезаліту да IX ст. н. э. Паказваюцца асноўныя этапы першабытнай гісторыі Беларускага Падзвіння, роля прыродных умоў і іх сувязь з гаспадарчай дзейнасцю. Для раскрыцця пытанняў духоўнага жыцця нашых продкаў выкарыстаны фальклорны матэрыял.**

**Разлічана на шырокае кола чытачоў.**

**З $\frac{0504000000-067}{М316(03)-90}$ 170—89** **ББК 63.3(2Б)**